*Яўгенія*
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ*

# *ЗАЛЕЖНАСЦЬ*

*Вершы*

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1989*

ББК 84Бел7
М21

Как и в предыдущем своем сборнике «Свет осенний зерна», вошедшем в коллективную книгу «Наследники», Евгения Мальчевская поэтически проникновенно исследует взаимоотношения людей, их заботы и тревоги. Основная тематика ее стихов — дружба, любовь, родная природа. Вместе с тем поэтесса не уходит от жизненных противоречий, от наболевших вопросов. В обостренном звучании представлена в книге тема материнства.

М $\frac{4702120202-050}{М\ 302(03)\text{-}89}$ 56—89

ISBN 5-340-00201-2

## *ЗАЛЕЖНАСЦЬ*

Мая дарога за бацькоўскім домам —
Святая сувязь з роднаю зямлёй.
На ёй залежнасць вырасла свядома
Ад усяго, што блізка і знаёма,
І я заўжды удзячна буду ёй.

І, чым жыву, з чым звязана заўсёды,
Прад тым заўжды застануся ў даўгу.
Залежу ад вясны і непагоды,
Ад старажытнай мудрасці прыроды,
Ад коласа залежнасць берагу.

Залежу ад нясказанага слова,
І ад сяброў, і ворагаў сваіх.
Ад шуму траў, ад гоману ляснога,
Ад усяго звычайнага, зямнога,
Ад вас, людзей, і грэшных, і святых.

І дзень пры дні залежу ад работы,
Ад страт і ад любога адкрыцця.
Залежу так, што ўсё згубіўшы, потым
Не будзе нават існаваць ахвоты,
Не будзе нават сэнсу для жыцця.

## *ДАР СТАЛАСЦІ*

Прымаю сталасці няўмольны дар,
І мудрасці набытай, і развагі,
Калі жыццё кладу сваё на вагі:
Чаго ў ім больш — здзяйсненняў ці ахвяр?

Чаго ў ім больш: ці шчасця, ці бяды,
Ці цвёрдасці і волі, ці адчаю?
З якім жа горкім смуткам адчуваю:
Цвілі, не пладаносячы, сады.

Цвілі, не пладаносячы, сады...
Адчула я з запозненай віною,
Калі паўсталі проста за спіною
Мае гады, як доўгія рады.

Мае гады, як доўгія рады,
І нібы неадступная праблема:
Ці буду жыць вось гэтак жа дарэмна
І што са мной адбудзецца тады?

І што са мной адбудзецца тады,
Калі гадоў растрачаных не вернеш,
Калі і шчырасць, і дабро, і вернасць
Травою зарастуць, нібы сляды?

Хістанняў зарастуць усе сляды.
Я веру толькі раніцы вясновай,
Дзе зашумяць наноў першаасновай
У пладаносных завязях сады.

Іду да іх. Сталею праз гады.



## СОН

Я не помню ні слоў, ні матыву
Песні той, што прыснілася ўночы.
Толькі помню — шчасліва, шчасліва
Усміхаліся маміны вочы.

Толькі помню: на водсвітку сінім
Несла вёдры з крынічнай вадою,
Пахла бульбаю, садам і кмінам,
І яшчэ малаком-сырадоем.

Ціхі месяц глядзеў праз аблокі,
Заліваўся гармонік пад вечар.
Помню — хтосьці, такі яснавокі,
Зноў прыходзіў у сне на сустрэчу.

* * *

Можа, лепей, каб я хацела:
Хата з краю — і жыць умела,
Каб кашуля бліжэй да цела,
Каб душой па ўсім не хварэла?

Толькі так не было і не будзе,
Мне чужымі не стануць людзі,
Мне спакой не астудзіць грудзі.
Хто за гэта мяне асудзіць?

* * *

Мой шлях — адлегласцю ў бясконцасць —
Нязмераны нікім...
Ад рання да заходу сонца
Усё іду па ім.

У новы дзень, у новы вечар,
За новы гарызонт,
Нясу, як спадчыну, у вечнасць
Турботы нашых дзён.

## *АДЧУВАННЕ ЖЫЦЦЯ*

Адчую цябе, жыццё,
Як уласнага сэрца біццё.
Позірк добры і злосны твой
Адчуваю істотай усёй.

Бачу клопаты ўсе твае,
Бачу тое, чаго нестае.
Па драбочках, нібыта соль,
Пазнаю тваю радасць і боль.

Твой агонь прыму як зару,
А спатрэбіцца — ў ім згару.
Бо, як сэрца свайго біццё,
Адчуваю цябе, жыццё.

* * *

Глядзіце, вочы мае, адкрыта,
Глядзіце смела жыццю у вочы
І ў дзень, што будзе яшчэ пражыты,
І ў дзень, што памяць вярнуць не хоча.

Рабіце, рукі мае, рупліва,
Рабіце шчыра, не знайце стомы,
Каб я адчула сябе шчаслівай,
Што мне ні кроплі за вас не сорам.

* * *

Хай надакучылі турботы,
Хай пад цяжарам ледзь іду,
Ды чарнавой сваёй работы
На плечы іншым не кладу.

Хай гэта цяжка, вельмі цяжка,
І хай не ўсё ідзе на лад.
Між пачуццём і абавязкам
Ніколі не нашу разлад.

## *ЗАЛАТАЯ МЯЦЕЛІЦА*

Неяк проста не верыцца
Ў чарадзейства без слоў.
Залатая мяцеліца
Ад бяроз і дубоў.

Зноў за хмаркаю лёгкаю
Цень плыве па зямлі,
На зімоўку далёкую
Ўжо ляцяць жураўлі.

Восень сеткі развесіла
Павуцінных антэн.
Мне і сумна, і весела
Ад такіх перамен.

Залатая мяцеліца,
Залаты неспакой,
Хай жа сэрца даверыцца
Прыгажосці такой!

## *КОШЫК СПЕВАЎ ПТУШЫНЫХ*

Лес ля вёскі маёй
Называецца Пташня.
Зноў паўстаў прада мной,
Нібы дзень учарашні,

Што мінуўся даўно —
Дзень вясковай дзяўчыны,
Што у кошык на дно
Спеў ссыпала птушыны.

А другія суніц
Пананосілі ў хату,
Не схіляючы ўніз
Галавы вінавата.

Словам цётка кальне,
Павучае з дакорам:
— Ходзіш, быццам у сне,
Крый жа божачка, сорам.

І няўцяміць ніяк
Пажылая жанчына:
Кошык повен не ягад,
А спеваў птушыных.

* * *

Пад залатой падковай месяца
Снег серабрыцца за акном,
І толькі вочы ў хатах свецяцца,
Жывым струменячы цяплом.

За дзень прытомленая вуліца
На адпачынак прылягла
І доўгім целам зябка туліцца
Да чалавечага жытла.





Ты мне інакш не гавары.
Усё вастрэй аб доме памяць,
Калі у скверы на кастры
Зноў восень дворнічыхі паляць.

Гарыць апалае лісцё,
А сэрца неяк ледзянее.
І нават рукі мне не грэе
Празрыстай восені касцёр.

Ды з кожнай восенню ярчэй
Гарэць у сэрцы успаміны,
Як тыя ягады рабіны,
Што рукі цягне да дзвярэй.

А вокны хаты, што святлом,
Нібы матулі роднай вочы,
Зноў на бальшак глядзяць сіроча
Праз сад маўклівы за сялом,

Дзе шчодрых яблыняў дары
Завуць настойліва дадому,
Каб расказала ўсім знаёмым,
Як восень паляць на кастры.

## *НАВАЛЬНІЦА*

Цішыня. І раптоўна — аж слепнеш ад бляску
і ўстрэску:
Разарвалася неба на дзве ці на тры
палавіны.
На пужліва-зялёным, на светла-зялёным
узлеску
Ўстрапянуліся кожным дрыготкім лісточкам
асіны.
І пайшла навальніца, вядзьмарка старая
нібыта,
Сцебанула дажджом і — галопам па пыльных
дарогах.
Толькі цягнецца ўгору маладое азімае
жыта —
Хлеб надзённы, і радасць, і шчасце, што
ў вечных трывогах...

## *МЕСЯЦ*

Ціха хмарка крадзецца,
Ўслед за ёю брыдзе
Месяц, каб наглядзецца
На свой твар у вадзе,

Каб прыгладзіць далоняй —
Хваляй цёплай ракі —
Серабрыстыя скроні,
Дзе аселі вякі.

## *СЯБРОЎЦЫ*

Наўсцяж па вуліцы шырокай
За песняй звонкай, да ракі,
На прыгажунях сінявокіх
Плылі каронамі вянкі.

А кветка-папараць буяла
Зусім паблізу ад кастроў.
Ой, на Івана, на Купала
Ты не вярнулася дамоў.

А мы, нібы не заўважалі,
Хоць падглядзелі незнарок,
Што ты надзенеш на купалле
Убор вясельны і вянок.

* * *

Калючы вецер
Мяцеліць снег,
Халодны вечар
Рассыпаў смех.

Сняжкоў не злепіш —
Мароз на ноч.
А нам так лепей —
Аж іскры з воч.

Гады, як маска,
Зляцелі ўміг.
Дзяцінства казка
Для нас дваіх

Прыйшла раптоўна
У яве-сне,
І ў шчасці поўным
Мы сыплем снег.

* * *

Срэбнымі падковамі пазвоньвалі
Тонкія ільдзінкі у двары.
Па-сяброўску шчырымі далонямі
Абдымалі цёплыя вятры.

А са стрэхаў падалі і гінулі
Пад вясеннім сонцам капяжы.
І, ажыўшы, зноў гучалі гімнамі
Сілы нерастрачанай душы.



* * *

Чаму ты, мама, смяешся мала,
Чаму так рэдка спяваеш песні?
Здаецца ж, гора не напаткала,
Здаецца ж, хата не стала цеснай?

Па-за парогам лягла дарога...
Што прынясе яна, як прытуліць?
Адзіны клопат, адна трывога:
Кім стануць дзеці твае, матуля?

* * *

Голас вясны абудзіць,
Крылы разгорне час.
Мама, ты заўтра ў людзі
Будзеш праводзіць нас.

З болем шчымлівым глянеш —
Птушкі твае ўзляцяць.
Мама, ты потым станеш
Пісем ад нас чакаць.

Будзеш чытаць няўмела,
У сэрцы схаваўшы плач...
Мама, ты так пастарэла,
Мама, за ўсё прабач.

Можа, й няма прычыны:
Што ж ты не спіш начэй?
Нашы ляглі маршчыны
Каля тваіх вачэй.

Схілішся ў думках ніца...
Тчэцца жыцця сувой.
Наша грыміць навальніца
Над галавой тваёй.

* * *

Ноч, нібыта на сцішаным беразе,
Пакідае пакой.
Можа, гэта ад белага ветразя
У душы неспакой.

Можа, проста пастукала раніца
I застыла ў акне.
Я у верасень крочу настаўніцай.
Як сустрэнуць мяне?

У сабе мову дзіўную, матчыну,
Як таемнасць, нашу.
Абуджаю Купалавай спадчынай
За душою душу.

## *НА АДКРЫТАЙ ДАЛОНІ*

Я адтуль і цяпер, з тых студэнцкіх гадоў,
Непрывычна мне з імем па-бацьку ужыцца,
А у класе за дваццаць русявых галоў,
Ў кожным класе за дваццаць,
а то і за трыццаць.

А у вёсцы пад тысячу розных вачэй.
Я у вёсцы — нібы на адкрытай далоні.
Вёска ведае думкі бяссонных начэй,
Заглядае у сны мае без цырымоній.

Не паспееш падумаць — ёй проста спазнаць,
Што хацела сказаць і чаго не сказала.
Як зацвердзіць сябе, як сябе апраўдаць,
Як свой выправіць крок,
калі ступіш няўдала?

Новы дзень свой адбітак кладзе на акне,
Разам з вёскай чакаў ён праз лета вяртання,
Каб сустрэцца са мной, каб праверыць мяне,
Каб паслухаць званок вераснёўскага рання.

* * *

Я вяртаюся ў думках у шчасце,
Адгалосак якога не сціх:
Побач ложкі у інтэрнаце
І канспекты адны на дваіх.

Зноў вяртаюся ў тое вяселле,
Дзе не бачылі ў тым бяды,
Што з агульнай талеркі елі
На стыпендыю ўсе гады.

Зноў туды, у далёкае шчасце,
Нам вярнуцца хаця б на міг.
...Побач ложкі у інтэрнаце,
Ды цяпер яны ўжо для другіх.

## *БЫЛЫМ СЯБРАМ*

І мы на дарогу таксама прыселі,
Так шчыра заўсёды пісаць абяцалі.
А стрэлы чыгунак удалеч ляцелі,
І вокны вакзалаў мільгалі.

І мы на дарогу крыху памаўчалі,
Разнялі абдымкі і слёзы змахнулі.
А мне падалося — нахлынулі хвалі
І вас, і мяне захліснулі.

Чаму ж гэтак хутка астылі і змоўклі:
Ці адрас зусім выпадкова згубілі,
Ці, можа, ў дарозе да ніткі прамоклі
І сэрца сваё застудзілі?..

* * *

Павукі аплятаюць восень,
Цягнуць сеткамі да зімы,
І сумуе ў нябёсах просінь,
Бы ў разлуцы сумуем мы.

А на змену — тваімі далонямі
Мне прыгладжваюць валасы
Залатыя лісты кляновыя
З кропелькамі расы.

* * *

Яшчэ світанне не настала,
Хоць да яго — падаць рукой.
Яшчэ зямля адпачывала
І выпраменьвала спакой.

А я, ўстрывожанаю птушкай,
Глядзела ў бездание вады.
Там ледзь прыкметны вецер гушкаў
Мае пражытыя гады.

І ў замаруджаным цячэнні
Я іх хацела пераняць —
Наноў адчуць, асэнсаваць
Жыцця пражытага імгненні.

## *ПРАДЧУВАННЕ АДКАЗУ*

Заплюшчу вочы, але толькі
Ўсю ноч не спіцца мне. Чаму?
Хачу знайсці ўсяго вытокі,
Даць тлумачэнне усяму.

Пытанням вечным не спыніцца.
Але ужо ў каторы раз
Жыву я прадчуваннем, быццам
Вось-вось народзіцца адказ.

* * *

І фарбы, і адценні у жыцці
З гадамі бачыш іншымі вачыма.
Пражыць жыццё — не поле перайсці,
А абмінуць — тым болей немагчыма.

Ідуць са мною побач землякі,
Вядзе ў прастор жыццёвая сцяжына.
А родны дом — маленькая айчына —
Глядзіць услед з-пад матчынай рукі.



## *ПРАТЭСТ*

Зноў каторую ноч не спіцца,
Пачынае і сёння днець.
Думак цяжкая калясніца
Пракацілася праз мяне.
Ці то вершаў наплыў засмучвае,
Вельмі многа — і ўсё не так.
Што трывожыць душу і мучае?
Не магу зразумець ніяк.
Ці разлад у суседскіх сем'ях,
Ці паспешлівасць, як заўжды.
Ад жыццёвага драбнатэм'я
Паўстае душа на дыбы.
Паўстае над усімі намі,
Па-над дробязнасцю падзей.
Там равесніцы, у В'етнаме,
Нараджаюць хворых дзяцей...
З тонкіх, кволых галін акацый
Абтрасаюць вятры лісцё,
І, як самі асацыяцыі,
Абрываецца іх жыццё.
Абрываецца лёс без веры,
Страхам цісне цца на парог...
Чысты аркуш бяру паперы
Для эскіза зямных трывог.

## *КУДЫ ТЫ, ВЕЦЕР?..*

Маўчаннем сцятым
Маўчаць вякі.
А куляў посвіст —
З тваіх мелодый.
Адкуль ты, вецер,
У бок які?
Куды ты, вецер,
Такі халодны?
Яшчэ не сцёрты
Ад тых сляды,
Яшчэ крывавяць
Мінулых раны...
А ты — ламаеш
Наноў сады,
А ты — лютуеш,
Як апантаны.
У час трывожны,
У час такі...
Няўжо ты чорных
Нагоніш хмараў?
Адкуль ты, вецер,
У бок які?
Хіба так мала
Было ахвяраў?

* * *

Чаму такі цяжар,
Чаму такая стома?..
І нечаканы сон,
Як гэты белы снег...
У глыбіні душы
Амаль што падсвядома
Асколкамі ільду
Рассыпаўся твой смех.

Твой развітальны смех
Гучыць многагалоссем...
А гэткі белы снег
За рамамі акон...
А можа, ўсё не так,
А можа, мне здалося,
А можа, гэта ўсё,
Як нечаканы сон?

3 Зак. 1925

* * *

Я думаю, што дзень тут — не апошні,
Што развітанню, пэўна, не настаць,
Што лес, яшчэ да ніткі не прамокшы,
Пакліча кветку-папараць шукаць.

Я думаю, што будзе ўсё бясконца
На вераснёўскіх сцежках, за Дняпром,
Што не саб'е у гэтым садзе сонца
Апошні яблык восеньскім крылом.

Што будуць зоркі віснуць над кастрамі,
Спадаць на пікі вострыя ялін,
І ў гарады паедзе разам з намі
Сяброўскі, добры, шчыры успамін.



Выплылі ў неба цёплае, летняе
Зоркі ўначы.
Як зберагчы пачуццё маё светлае,
Як зберагчы?

Вусны пяшчотнаю ласкай прасіліся
Ўсё апаліць.
Што ж мне зрабіць, каб яны не забыліся,
Што ж мне зрабіць?

Светлаю песняй каханне віталася
З ясных акон.
Дзе ж тое шчасце, што блізкім здавалася,
Дзіўны мой сон?

Дальніх дарог вандраванні адвечныя —
Лёс іх такі.
Як зберагчы твае словы сардэчныя,
Поціск рукі?

## *ТРЫЯЛЕТ*

Спялю надзею светлую ў душы,
Жыву чаканнем радаснай сустрэчы.
Абдымеш з ціхай ласкаю за плечы —
Спялю надзею светлую ў душы.

Захмарыўся задумліва аб нечым
Маладзічок, народжаны ў цішы.
Спялю надзею светлую ў душы,
Жыву чаканнем радаснай сустрэчы.

* * *

Як лісце восені, гады спадуць на плечы,
На скроні снегам ляжа сівізна.
А ты ўсё будзеш позіркам хлапечым
Глядзець, як многа, многа год назад.

Ты будзеш марыць шчыра, летуценна
І зваць у далеч сінюю сваю.
Дзе я сустрэч кароткія імгненні
На ўсё жыццё у памяці спыню.

Дзе ў кожны вечар з пройдзенага рання
Я у душы, нястомленай яшчэ,
Слоў прынясу пяшчотнае гучанне
І чысціню крыштальную вачэй.

## *САНЕТ*

І я была шчаслівая таксама,
Не абышло каханне і мяне.
Зялёнай абавязана вясне,
Што да мяне прыйшла неспадзявана.

Раптоўна ў сэрца думкаю кальне:
Усё растала і навекі знікла...
Я галавой задумліва панікла:
— Няўжо было ўсё гэта як у сне?

Але не згаснуць памяці маёй...
Уваскрашаю сэрцам голас твой
І ён, жыццём напоўнены, гучыць.

Наперакор адчаю і журбе
Зноў хочацца і верыць, і любіць,
І з ціхай ласкай помніць пра цябе.

## *ЭЛЕГІЯ*

Не пачуццём, а прадчуваннем
Ужо каторы дзень жыву:
Вось-вось расплешчацца світанне
На пераспелую траву.

Паабтрасае вецер росы,
На лоб ускіне валасы...
І толькі, быццам рэха лёсу,
Зазвоняць рэек галасы.

— Пакі... пакінута... пакінуў,—
Праб'е дарожны тэлеграф...
І дзве слязінкі успамінаў
Спаўзуць міжволі па шчаках.

* * *

Пастукае пальцамі дождж у акно,
Пастукае ў дзверы.
Ён, пэўна, сягоння са мной заадно —
Таксама не верыць.

Праклюнецца сонца, нібы птушаня,
Зардзее ля вокан,
Праменнем памкнецца цябе даганяць,
Ды пуста навокал.



## *РАЗЛАД*

Быць так не можа, быць так не можа:
Ўжо і не дзень, і не два мы маўчым...
Да невыноснасці сэрца трывожыць
Гэта віна, невядомая ў чым.

Хутка закружыць зімовая замець...
Хіба не бачыш — душа халадзее.
Не дапусці ты, каб горкая памяць
Нам засталася зусім без надзеі.

Стала маўчанне падобным да здзекаў,
Аж да нясцерпнасці вынесці цяжка.
Выбегла ціха сляза з-пад павекаў:
— Будзь чалавекам, стань, калі ласка...



Даўно пара асесці і спыніцца,
Было ж дарог нямала у жыцці...
Зноў новая раённая сталіца,
Душой і целам трэба прырасці.

Напэўна, лёсам так наканавана:
На скрыжаванні ветру і дарог
У вераснёўскі ціхі, золкі ранак
Ступіць на твой уздыблены парог.

І я ступаю. З мэтаю сагрэцца.
Уся ў сумненнях, быццам у даўгу...
Няўжо, як перасаджанае дрэўца,
Я тут ніяк прыжыцца не змагу?



Я ўсё даравала, бо вельмі любіла,
Ды толькі нічога забыць не змагла:
Ні доўгіх начэй адзінокую стыласць,
Ні роспачы той, што на сэрца лягла.

І крыўду, і здраду, і боль, і абразу,
Якімі пад самае сэрца касіў,
І ўсё даравала, хоць ты і ні разу
Ніколі аб гэтым мяне не прасіў.

Павысахлі слёзы, і горыч астыла,
А памяць, як помсту, сваю берагу:
Я ўсё даравала, я вельмі любіла,
Я толькі нічога забыць не магу.

І хай незнарок, выпадкова, аднойчы
З няшчырасцю змусіш душу паяднаць,
Я з гэткай адплатаю гляну у вочы,
Што болей ужо не змагу даравадь.

## *ТАК БУДЗЕ*

Стануць лішнімі ўсе турботы.
А трывога — не абміне.
Толькі гэта ўсё будзе потым,
Як не будзе з табой мяне.

Будзеш, знаю, стаяць з адчаем
Ценем змрочлівым у акне.
Будзе шклянка з халодным чаем,
Як не будзе з табой мяне.

Мне таксама слязу употай
Не схаваць, як жыццё само.
Толькі гэта ўсё будзе потым,
Як не будзе цябе са мной.

Сцісне сэрца цяжар маркоты,
Будзе сум мой, як лес,— сцяной.
І — не збавіцца адзіноты,
Як не будзе цябе са мной.

## *САНЕТ*

Не наракаю на жыццёвы лёс,
Хоць вецер гне, як тонкую галіну,
Я гаспадыня дома, што пад знос,
Я і сама пад знос напалавіну.

Дамы узводзяць побач да нябёс,
А ты заўжды здаешся мне часовым...
Як будзеш жыць, скажы, у доме новым
Без гаспадыні дома, што пад знос?

Маёй трывогі мне не затушыць,
Ды не хачу ні плакаць, ні тужыць,
Пакуль яшчэ і вокны ёсць, і дзверы.

Пакуль не параскідалі вуглоў,
Я не магу і дня пражыць без веры,
Што полымя успыхне з вугалёў.



Жыццядайная сіла любві,
Прыцягненнем і рук, і вачэй
За сабою мяне пазаві,
Каб яшчэ не было балючэй.

Каб пазбавіцца горкіх хвілін,
У якія мы сцята маўчым...
Хай маленькі народзіцца сын —
Светлай зоркай над лёсам маім.

Хай засвеціцца радасцю дом,
Хай застолле сустрэне гасцей,
Хай да самай начы паштальён
Віншаванні у хату нясе.

Прадаўжэнне тваё і маё,
Неакрылены, кволенькі птах,
Хай зацвердзіць з'яўленне сваё —
Засмяецца на нашых руках.

Адчужэнне прагоніць як сон...
І прадоўжыць наноў з небыцця
Жыццядайнай прыроды закон —
Незнішчальнасць любві і жыцця.



Згарае каханне марудна, балюча,
Згарае, нібыта асенні касцёр.
Адчужанасць, быццам бы вецер калючы,
Апошніх надзей абрывае лісцё.

Згарае каханне надрыўна і горка,
Маленькая іскарка ледзь зіхаціць...
Нібы з небасхілу сарвалася зорка,
Што ў чорную бездань адчайна ляціць.

Згарае каханне на попел-трывогу,
Пакутным адбіткам на цэлым жыцці.
Так хочацца выйсці ізноў на дарогу,
Ды толькі куды невядома ісці...



Пустымі і бясконцымі начамі
Пакінь мяне, балючы успамін...
Мне сніцца ненароджаны мой сын
З блакітнымі і сумнымі вачамі.

З блакітнымі і сумнымі вачамі,
Якія не паспеў яшчэ адкрыць,
Які не змог са мной загаварыць,
Адчуць, з якой я ношай за плячамі.

З якой я цяжкай ношай за плячамі!..
Дзе ўсё жыццё, як вечны напамін,
Мой першы, ненароджаны мой сын
Глядзіць такімі сумнымі вачамі.

* * *

«А як у вас?» ...Хай кожны не пытае —
Хлеб-соль у нас заўсёды на стале.
Ды нечага нібы не дастае,
Ці некага як быццам не хапае.

І дом, здаецца,— нібы без вугла,
І час — такім трывожным і марудным,
І аж да болю робіцца пакутным
Чаканне з поўдня белага бусла...



Пасадзіла клянок
І гадзюку забіла,
Збудавала свой дом —
Нават месца зашмат.
Толькі клён апастылеў,
І ў доме няміла,
І гадзюка, здаецца,
Вярнулася ў сад.
Дзень мінае за днём,
Год мінае за годам.
Паляцеў за сыр-бор
Мой сынок-сакалок...
Ці то доля мая,
Ці то жорсткасць прыроды —
Над знямелаю цішай
Яго галасок?..

* * *

Па-над хатай даўно не бусел,
Толькі крылаў ягоных цень...
Завязаўся у чорны вузел
Кожны год мой і кожны дзень.

Крыкам немачным вар'яцею:
— Што ж ты, бусел, са мной зрабіў? —
Упусціў незнарок надзею
І над самым гняздом разбіў.

## *РОЗДУМ*

### *1*

Ці не так сказаў, ці глянуў,
Ці зрабіў не тое крыху,
Узнікае раптам спрэчка
Невядома з-за чаго.

Вырастае раптам крыўда,
Як сцяна ці глыба лёду.
І адчужанасці холад
Раздзяляе двух людзей.

Вырываюцца карэнні
З роднай глебы на паверхню,
Гінуць кроўныя саюзы,
Рвуцца сувязі з зямлёй.

Пакідаюць паасобку
Людзі блізкіх легкадумна,
Родны бераг, і гняздоўі,
І маленькіх птушанят.

Нібы лодкі, што без вёсел
Разгайдаліся на хвалях,

Прыбіваюцца да новых,
Незнаёмых берагоў.

Абжываюцца спачатку,
Гнёзды новыя будуюць.
Можа, іх жыццёвы вопыт
Сёння іншымі зрабіў?

Мо, нарэшце, зразумелі
Жорсткасць душ і самалюбства,
Што, нібы каштоўны камень,
Выстаўлялі напаказ?

Мо адчулі і балюча
Ўпершыню пашкадавалі,
Што сваіх адзіных, блізкіх
Не умелі берагчы?

2

Устрапянуцца птушкі палахліва
І змоўкнуць у дрымучых вершалінах
Самотных хвой, якія тут спрадвеку
Трывожна і адчужана шумяць.

Але пад імі сёння урачыста...
Прыбраны і пасыпаны магілы
Дзядоў і нават прадзедаў далёкіх,
Якіх ужо пазабывалі ўсе.

Крыжы, пафарбаваныя да свята,
Стаяць з вянкамі новымі на шыях,
А помнікі навокал запытальна
Сваімі фотакарткамі глядзяць.

Здалося мне, што быццам патрабуюць
Яны адчуць і даць адказ свядома:
Ці толькі сёння, ці заўсёды ў сэрцах
Ушанаванне памяці жыве?

Стары сусед падводзіць да магілаў.
Яму ужо нямнога засталося...
— Да іх пайду,— паказвае рукою,—
Вось тут мой род і ўся мая радня.

Я сам зрабіў з запасам агароджу...
Суседзі потым побач пахаваюць.
Стаміла вельмі доўгая разлука,
Да іх пайду... Адзін — не чалавек.

Гляджу наўкол: за кожным частаколам
Пустое месца некага чакае,
Каб потым нехта новы прытуліўся
Да самых блізкіх, самых дарагіх.

Я сэрцам гэта добра разумею
І не дзіўлюся сіле прыцягнення,
Хоць ведаю, што там, пад каранямі,
Адвечны холад, цемра, небыццё.

Мяне сягоння іншае здзівіла,
Уразіла да роспачы другое:
Чаму ж цаніць мы шчасце не умеем
І берагчы жывое пры жыцці?..



* * *

Дзень разамлелы са снегам вясновым
Ўвесь перагарам і дымам прапах.
Хісткае цела, няўдзячныя словы,
Як камяні, на старэнькіх руках.

А з-за платоў выглядаюць суседзі —
Сведкі, здаецца, нядаўніх радзін.
Грудзі сухенькія выдыхнуць ледзьве:
— Не нарадзіўся бы гэтакі сын...

Падаюць горкія слёзы няспынна,
Сочаць цікаўныя вочы людзей.
Маці старэнькая п'янага сына —
Сумную ўцеху на старасць вядзе.



О, неспакойны сіні вецер,
Што піў расу з паніклых траў,
Чаму ж ты не застаўся ў леце
Маіх прыгод, маіх забаў?

Няўжо абтрушанае лісце,
Ці сум гаркавы ціхіх дрэў
Табе прыносяць больш карысці,
Чым бесклапотнасці напеў?

Ці жоўты колер болей яркі,
Ці пах антонавак хмяльней?
Ты ж, як і я — ў вачах ні хмаркі —
Мяне хоць крыху зразумей...

Мне так не хочацца у восень,
У думках спад, у фарбаў спад,
Дзе маладосць маю адносіць
Мяцельны сумны лістапад,

Які вось-вось закруціць снегам
Над галавой, на галаве...
О, вецер-сінь, чаму ж ты бегаць
Не хочаш болей па траве?

* * *

Дарога бывала горнай,
Дарога ішла дрыгвою,
Было не заўсёды зорным
Неба над галавою.

Ступала не вельмі прама,
А ўсё ж ткі ішла без плачу...
Не веру, што лёс мой — драма,
Проста — была няўдача.

Не веру, што песня спета,
Проста — сарваўся голас.
Вырасціць новае лета,
Выспеліць новы колас.

Будзе зярняткам-словам
У коласе гэтым цесна,
Вырвуцца з сэрца новай
Звонкай і смелай песняй.

* * *

Пакуль яшчэ не сорамна
Нібыта...
Але няўмольна блізіцца
Той час,
Калі сябе пытаюць
Аб пражытым,
Калі за ўсё спаўна
Даюць адказ.

* * *

Ківаюць галовамі сведкі
І моўчкі праходзяць ля іх...
Хлопцы, амаль што падлеткі,
Скідваюцца на траіх.
З выклікам, ледзь не горда,
Бахуса ўспеніць рог...
Стане зямля няцвёрдай
І паплыве з-пад ног.
Парасплывуцца твары,
Думкі — галоў мінуць...
П'яныя на тратуары
Хлопцы жанчыну б'юць...

## *ІХ ШУКАЕ МІЛІЦЫЯ...*

З фотаздымкаў глядзяць
Твары змрочліва-ніцыя
Там, дзе стэнды крычаць:
«Іх шукае міліцыя».

І маніць, і лаўчыць —
Школа цэлая пройдзена.
Ля прыгожых жанчын
Натыкнешся на злодзея.

Гвалтаўнік і бандыт
За начамі бяссоннымі
Замятаюць сляды
Пад чужымі імёнамі.

Апісанне прыкмет —
Ў пратакольнай дакладнасці.
Як адзіны іх след,
Што губляецца ў даўнасці.

Знік нібыта ў вадзе,
Ці за дымкай-імжыцаю.
Між звычайных людзей
Іх шукае міліцыя.

## *САМАНАДЗЕЙНЫМ*

Такія раннія, разумныя,
І да ўсяго — з уласнай мераю.
А я прайшла дарогі сумныя,
А я не веру вам, не веру я.

Сваімі крокамі, як вёрстамі,
Усё так проста вамі мерыцца.
А я прайшла шляхі няпростыя,
І вам не верыцца, не верыцца.

І вы на ўсё — з сваёю рацыяй,
І з аргументамі, і з ведамі.
А я таксама з адукацыяй,
Ды толькі многага не ведаю.

Я і сумненнем, і сумленнасцю
Па сем разоў крок кожны мераю...
А што стаіць за вашай смеласцю,
А што стаіць за вашай верою?..

## *ПАПЕРА*

Можа, правы, а мо  і не правы
(Не пытае, бо рознае церпіць) —
І шматлікія скаргі, заявы
На сабе дазваляе крэмзаць.

Бо такі ўжо ў паперы лёс,
Каб усё выносіць пакорна:
І салёныя кроплі слёз,
І забытых сяброў дакоры.

Пацалункі ў канцы ліста,
І праклёны за здраду ў веры.
Думак лёт ад радка да радка —
Усё на плечы цярплівай паперы.

* * *

Уся душою прасвятлела,
Калі змагла  я зразумець,
Што лісцям песень анямелых
Увысь ніколі не ўзляцець.

Таму й часцей начамі сніцца
Крылаты, хоць далёкі птах.
Не жураўлём і не сініцай,
А проста — песняй у радках.



* * *

Даўно іх вёсны праміпулі,
Даўно жывуць жыццём дзяцей
І ўнукаў туляць да грудзей
Старыя сівыя матулі.

І так ашчадна берагуць
На смерць, нібы на прычашчэнне,
Употай новае адзенне,—
Што я зміріцца не магу...

Ды нельга лёс пераіначыць
І непазбежнасць адхіліць...

* * *

Былі памылкі і пралікі
(Ад іх, як бедны, у даўгах),
І страхам роспачы вялікай
Сціскала нібы ў абцугах.

Яшчэ нямнога адхадзіла,
Казалі ж: болей не прайсці,
І ўжо, лічылі, разгубіла
І ўсё растраціла ў жыцці.

Шапталі: збілася з дарогі,
Завяла стоптанай травой...
А я ўздымаюся на ногі,—
«Ў маім канцы — пачатак мой».

* * *

Нішто ў жыцці невыпадкова:
Усё гэтак і павінна быць —
Яшчэ не сказанае слова
У душы даверліва гучыць.

Яшчэ не знойдзеная песня
Напамінае аб сабе,
І раўчукамі напрадвесні
Спявае гучна-гучна снег.

Нішто ў жыцці невыпадкова:
Ні пачуццё, ні адкрыццё,
Мая свяшчэнная аснова —
Усё, як ёсць, само жыццё.

* * *

І старадаўнія карціны,
І старажытныя іконы
Мяне хвалююць і здзіўляюць
Наіўнай рысаю адной —

Каля убогага прытулку
Ва ўсіх пустыннікаў-прарокаў
І у апосталаў мудрэйшых
Заўсёды кніга пад рукой.

І багародзіца святая,
І воін доблесны Георгій
Пазнанняў кніжыцу трымаюць
Як сімвал святасці самой.

І супраць волі, як на выйсце,
Праз мастакоў-іканапісцаў
Яны падказваюць, што ў кнігах
Шляхі да ісціны жывуць.

* * *

Не мала і не многа —
Пражыта палавіна.
Ды без канца дарога,
Якой ісці павінна.

Ды без канца — турботы
Ў пытаннях набалелых.
А ў лёсе — павароты,
Якіх бы не хацела.

А ў сэрцы — недарэчнасць
Сустрэчаў і расстанняў.
І задаваць пра вечнасць
Няма калі пытанняў.

## *РАННЯЯ ЗІМА*

Ты вечна зменлівы, прагноз...
А тут — такія павароты:
Ляглі завейныя сумёты
Пад ногі босыя бяроз.

І хоць не студзень астудзіў,
Хоць да зімы яшчэ далёка,
Снягі прарваліся з аблокаў
Людзям і восені на здзіў.

А ноччу — выдаўся мароз,
І вецер, быццам ашалелы,
З галін, заўчасна пабялелых,
Лісты апошнія абтрос.

## *ДА ХВОРАЙ МАЦІ*

Глядзелі зорак
Далёкіх вочы
На сонны востраў
Майго сяла.
А я — дарогай
Начной, сірочай
Праз лес, праз поле,
Праз снег ішла.

А я — дарогай
Штосілы бегла.
А да райцэнтра —
Няблізкі шлях.
Ды дваццаць вёрстаў,
Хіба адлегласць?
Тых дваццаць вёрстаў —
Шчымлівы страх.

А там — на ложку
Бальнічным мама,
Там мой пачатак
І мой працяг...
Сціскала сэрца
Няўхільнай драмай,

Ляцеў пад ногі
Бясконцы шлях.

Душылі слёзы,
Расла трывога.
Сябе маліла:
— Хутчэй, хутчэй...
Дайшла нарэшце,
А ад парога
Насустрач мама —
Цяжар з плячэй.

* * *

Ніхто не бачыць, як начамі
Аж захлынаюся ад слёз...
Жыву з вясёлымі вачамі,
Зусім не скарджуся на лёс.

Хай лічаць самаю шчаслівай —
Схаваю боль і смутак свой
І ля зламыснікаў ліслівых
Прайду з узнятай галавой.



* * *

Ўвап'ецца думак вострае асцё,
І іх нічым ні вырваць, ні аблегчыць...
Няўжо не абысці і не пазбегчы,
Няўжо на тым і скончыцца жыццё,

Што ў нейкі час зялёнаю травой
Я прарасту праз дол удзірванелы,
Ці праяўлюся на бярозе белай
Самотліва-тужліваю ліствой?..

А можа, ўсё — дарэмны непакой?..
І праз мяне хто-небудзь паўтарыцца
Ці кнігаю, ці сынам, ці крыніцай
Заўжды удзячнай памяці людской?..

* * *

Ўсё гэта праўда сказана, магчыма:
Меч галавы павіннай не сячэ.
Іду з любым цяжарам за плячыма
Шукаць падтрымкі ў блізкасці вачэй.

Іду хадой адчайнаю такою,
А ты, нічога быццам не было,
Мой гладзіш твар шурпатаю рукою,
Вярнуцца клічаш у сваё сяло.

І ўсё далей трывожныя імгненні,
Што доўга так спакою не даюць...
Калі ізноў на родныя калені
Я галаву павінную кладу.

* * *

Хай з усмешкай глядзяць услед,
Хай жыццё — не мядовы месяц...
Не зламацца бы толькі ад бед,
Не упасці б на роўным месцы.

Хай пляткараць вакол і кпяць,—
Да ўсяго вельмі многім справа.
Не хачу нават час марнаваць
На зламыснікаў злева і справа.

Хай яны не заснуць па начах,
Хай сабе пакусаюць локці...
Я сціскаю сябе ў руках,
Аж крывавяць парой пазногці.

Я не роўнай іду шашой.
Упаду... Ну і што? — Устану!..
Толькі крыўду і зло за душой
Я, як камень, насіць не стану.

І ў якой не была б бядзе,
На чужую дарогу не збочу.
Хай мая мяне толькі вядзе...
Упаду... Паднімуся... Крочу.



Паламала сваё вясло,
Пасяліла ў душы трывогу:
Павяло мяне, панясло
Не на тую зусім дарогу.
І пайшла за табой услед
Не на тыдзень і не на месяц,
Хоць на ўвесь навакольны свет
Языкамі чаўпуць і месяць.
— Ах, каб іншаю быць магла,
Разам жыць нават дня не стала б,
Не прагнала б — сама б пайшла,
Яшчэ лепшага напаткала б.
Можа б, выпаў святлейшы лёс,
Гаспадыняй была б сапраўднай...
Затуманіцца ўсё да слёз:
— Ну а што, калі гэта праўда?
Ды пакінуць цябе шкада.
І куды тут паедзеш-пойдзеш?
Мусіць, іншая ёсць бяда:
Ты ж такую, як я, не знойдзеш.
Можа, ты паламаў вясло,
Можа, я цябе так любіла,
Можа, нас дваіх панясло —
Да адных берагоў прыбіла?

* * *

Лес — двор манетны — золата чаканіць.
Спыніўся час: ні ўперад, ні назад.
Я не прыйду, дарэмна ты чакаеш,
Мяне замёў асенні лістапад.

Параніў цяжка сум самотных клёнаў,
Закрыла вочы сетка павуцін.
Няма дарогі мне, запаланёнай,
Абпаленай пажарамі рабін.

Я буду тут да новага цвіцення,
Да пазыўных вясенніх салаўёў.
Пакуль жа ўсе спыніліся імгненні,
І я стаю без голасу, без слоў.

* * *

Свінцовы град апальвае траву,
Свідруюць неба грозныя ракеты...
І ўжо расце пад сэрцам у планеты
Той смертаносна-рэактыўны ціск.

А я жыву. І гэта я жыву?!
А я ж магу не жыць на гэтым свеце...
Я завяззю з'явілася на вецці
Ўсяго жыцця, каб сцвердзіцца у ім.

І каб спазнаць і нават перайначыць.
Не паданкам апасці на зямлю,
А каб сказаць адвечнае «люблю»
І даць жыццё для новага цвіцення.

# НАВАЛЬНІЦА ТРЫВОГІ

І не здаецца, і не сніцца...
З усіх бакоў, з усіх старон
Праз шыбы тонкія акон
Грыміць трывогі навальніца.
Чым ад яе абараніцца?

Няўжо настане той апошні
Жыццю адведзены рубеж?
Няўжо, зямля, не зберажэш
Ні нівы росныя, ні пожні?
Няўжо сябе не зберажэш?

## *ЗІМОВЫ МАТЫЎ*

Завеі
Шумелі
І ўсё ж лагаднелі ля вокан.
Нясмела
Глядзела
Зімовае ранне праз шкло.
Як стылі
Ад стыні
І вязлі у снезе глыбока
Хаціны
Мясціны,
Якую за ноч замяло.
І цяжка,
І вязка,
І вельмі кірунак няпросты,
Здаецца,
Смяецца
Пякучы мароз з-за сасны.
Няходкай
Паходкай
Палотнаў адбеленых вёрсты
Я мераю
З вераю
У звонкае сонца вясны.



Ніякай ганьбай не лічыла
Сваё вясковае жытло.
Там, як умела, так вучыла
Жыццёвай мудрасці сяло.

Там мазалі заўжды ў пашане.
І мне сваіх не сорам рук.
Там хлебаробскае пазнанне —
Святая самая з навук.

Там, не сказаўшы «добры вечар»,
Не пройдзеш, быццам ні пры чым.
Збярэцца цэлай вёскі веча
І дакапаецца прычын.

І так абсудзіць, так прысудзіць,
Што потым будзе, хоць бяжы...
Маёй маленькай вёскі людзі —
Майго сумлення рубяжы.

* * *

Калі пагляд мой стане як жабрацкі,
Калі ў адчаі рукі апушчу,
І не заўважу сівізну у бацькі,
І зло без пакарання адпушчу,—

Хай месца мне не знойдзецца на свеце.
Ні сярод дня, ані ў трывожным сне,
Хай мама адрачэцца ад мяне,
І пальцамі паказваюць хай дзеці.

Хай сонца над маёю галавой,
Як пакаранне строгае, застыне.
І хай зямля бацькоўская не прыме,
Калі ўзыду засмечанай травой.



Я прыйшла на зямлю ад той,
Што прагнана ўсявышнім з раю,
Што нясе на сваіх плячах
І сумленне, і боль зямлі,
У якую усёй душой
Кожнай клеткаю я ўрастаю,
Прарастаю жывой травой
Ў невычэрпнай сваёй любві.

Я прыйшла на зямлю ад той,
Што у грэх увяла Адама,
Я прыйшла на зямлю ад той,
Што з яго узышла рабра,
Каб па просценькіх двух складах
Вымаўляць навучыцца: «Ма-ма»,
Каб па дзвюх ласкавых руках
Ўсе вытокі пазнаць дабра.

## *ПЕРАД АПЕРАЦЫЯЙ*

Прагучала як прыгавор:
— Аперыраваць неадкладна!..
Рэха выбегла ў калідор,
Паўтараючы ўсё суладна.

А за ім забыццё плыло,
Дождж за вокнамі ціха капаў.
Мне сказалі, што ён — заплакаў...
І — не страшна зусім было...

* * *

Проста так, без усякай прычыны,
Ці сваю ўявіўшы бяду,
Я да могілак ціхіх іду
За труной незнаёмай жанчыны.

Як аснова жыцця і выток,—
Дня прыціхлага горкая стома.
Дамавіна ад роднага дома
Праплыла праз увесь гарадок.

А за ёю — і ўнукі, і дзеці,
І сяброўкі ад вуліц усіх...
Сцепанулася думкай на міг:
Мне ж таксама настане памерці...

Мне ж таксама настане пара,
Час праб'е ў адзінокае ранне...
Хто засведчыць маё існаванне,
Ці хаця б правядзе са двара?..

## ПАМЯЦІ БАЦЬКІ

На пуцявіны і сцежкі,
На мітусню дарог,
Як жа сваёй усмешкі
Ты для жывых не збярог?..
Тлеюць ля пнёў апенькі,
Дождж-грыбасей прайшоў.
— Сівенькі мой, старэнькі,
Што ж ты ў лес не пайшоў?..
Вострым шыпом у сэрцы
Памяць ізноў кальне:
— Як жа ты змог памерці,
Не прычакаўшы мяне?..
Поле ў нямым здзіўленні,
Луг, што калісь касіў:
— Як жа ты ў гэткім адзенні,
Што й пры жыцці не насіў?..
Вузкай магілы рама —
Лёсу няўмольны час...
А над труною — мама:
— Што ж ты пакінуў нас?..
Пахне ад свечак ледзьве,
Дзень закаціўся і сціх.
А за сталом — суседзі...
— Як жа ты там, без іх?..

## *РАДАСЦЬ*

І шчэбет птушак на світанні,
І ззянне сонца над зямлёй,
Усё — нішто у параўнанні
Са светлай радасцю маёй.

Усё — як толькі дапаўненне
Да тайны кроўнага зліцця.
Ляжыць сыночак на каленях
І шчасцем поўніць уяўленне:
Няма бяды і небыцця.





Мне сніцца бальніца,
мне пахі бальнічныя сняцца...
Сястра медыцынская,
быццам прывід у палаце,
Крывавыя плямы
на белых прасцінах, на пальцах
Начамі і днямі,
гадамі бясконца мне сняцца.
Начамі і днямі,
гадамі яго я чакала,
Я трызніла нават
і часта у сне размаўляла
З яшчэ не народжаным мною
маім немаўляткам.
Я нават зайздросціла
горкаю зайздрасцю маткам
Вясёлым, шчаслівым,
што неслі сынкоў яснавокіх.
Душой пасівела
і стала лягчэй за аблокі,
Ад слёз і маршчынаў
павыцвілі вочы дачасна.
Я смерці жадала сабе
выпадковай, заўчаснай,

Бо смерць была б лепей
пакутнай маёй адзіноты.
А я ўсё чакала,
чакала маленькай істоты,
Што з'явіцца з крыкам
і сынам маім назавецца,
Зялёным і кволым расточкам
з-пад сэрца праб'ецца,
І боль мой пякучы астудзіць,
і скруху прагоніць.
Гады праляцелі,
ніхто іх цяпер не дагоніць...
Я веру губляла,
а потым зноў верыла свята
І зноў я чакала
упарта, адчайна, зацята,
Што сын мой не мог
да мяне не прыйсці, не з'явіцца.
...Як вечная памяць,
начамі мне сніцца бальніца.

* * *

*Урачу А. В. Галькевічу*

Крычыць сынок —
крывінка на руках,
А я душой і целам
халадзею...
Гляджу на вас з адчаем
і з надзеяй,
Гляджу з мальбой
адкрытай у вачах.
Вы сёння больш,
чым доктар і чым бог,
І я ў адным прашу: дапамажыце.
Бясконцы страх аб страце
праганіце
З маіх начных бяссонніц
і трывог.
Сынок-крывінка —
сэнс мой і працяг.
Заходзіцца ад болю
і ад плачу...
Я пакланеннем вечным
вам аддзячу
За зорку, што яго асвеціць шлях.

## ЗМЕСТ

**Мальчэўская Я.**
М21 Залежнасць: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 94 с.
ISBN 5-340-00201-2.
Мальчевская Я. Зависимость: Стихи.

Як і ў папярэднім сваім вершаваным зборніку «Святло асенняе зярнят», які ўвайшоў у калектыўную кнігу «Нашчадкі», Яўгенія Мальчэўская даследуе ўзаемаадносіны блізкіх людзей, іхнія клопаты, трывогі. Асноўная тэматыка яе вершаў — дружба, каханне, родная прырода, любоў да радзімы. Паэтка падкрэслівае залежнасць сваёй лірычнай гераіні ад часам супярэчлівых, але рэальных узаемаадносін. Абвострана пададзена ў кнізе тэма мацярынства.

**М $\frac{4702120202-050}{М\ 302(03)-89}$ 56—89** **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание
*МАЛЬЧЕВСКАЯ Евгения Евдокимовна*
*ЗАВИСИМОСТЬ*
Стихи
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Яўгенія Еўдакімаўна*
*ЗАЛЕЖНАСЦЬ*
Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак В. І. Бондар. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. А. Дзядзюля

ІБ № 2659

Здадзена ў набор 19.10.88. Падп. да друку 28.12.88. АТ 09581. Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,00. Ум. фарб.-адб. 3,13. Ул.-выд. арк. 2,13. Тыраж 2600 экз. Зак. 1925. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.